// НАВІНЫ



БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ ЗА ПЕРАБУДОВУ "АДРАДЖЭНЬНЕ"
11--12'1989 жнівень--верасень.

---

УЛАДЗІМЕР КАРАТКЕВІЧ
ПРА НАЧАЛЬСТВА НА БЕЛАРУСІ:

"Бог дзяліў між народамі землі. Адным тое, другім -- тое. Прыйшлі беларусы... Вельмі ж пану Богу спадабаліся. Ён і пачаў нас надзяляць: "Рэкі вам даю поўныя, пушчы непамерныя, азёры -- нялічаныя. Сьпёкі ў вас ніколі ня будзе, але й холаду -- пагатоў. Зажэрціся на багатай зямлі ня дам, каб былі ўвішныя, кемлівыя, працавітыя, але й голаду ў вас ніколі ня будзе. Наадварот, у голад шмат багацейшыя людзі будуць да вас прыходзіць. Ня ўродзіць хлеб, то ўродзіць бульба. А яшчэ зьвяры й дзічына ў пушчах чародамі, рыбы ў рэках касякамі, пчолы ў борцях мільёнамі. А травы -- як чай. Ня будзе голаду. Жанчыны ў вас будуць прыгожыя, дзеці -- дужыя, сады -- багатыя, грыбоў ды ягад -- завaліся. Людзі вы будзеце таленавітыя, на музыку, песьні, вершы -- здатныя. На дойлідства -- таксама. І будзеце вы жыць ды жыць, ну як..." Тут яго сьвяты Мікола ў бок штурхае: "Пане Божа, ды вы падумайце. Гэта ж вы ім рай аддаяцё! Гэта ж вы... Бо-жа мой!.. Ды яны пры іхняй языкатасьці туды з сапраўднага раю ўсіх перавабяць!.." Бог падумаў, крэкнуў, але назад адбіраць ня будзеш. Сапраўды, ёсьць ужо яна, зямля. Лані бягуць -- лес варушыцца. Рыба чаўны з вады выціскае. Дрэвы -- да сонца. "Добра, -- кажа, -- зямля будзе -- рай. А каб не занадта вы перад маім раем ганарыліся -- дам я вам найгоршае ва ўсім сьвеце начальства... Гэта вам для раўнавагі".

КРОНІКА

15 ліпеня, Ворша. У суботу, 15 ліпеня, адзначым -- выходны дзень, -- аршанцы маглі назіраць незвычайную праяву працоўнага энтузіязму: спрытныя дзецюкі ліхаманкава заколочвалі вокны і дзьверы былога дамініканскага касьцёлу, помніка архітэктуры 18 ст.

Да нядаўняга часу ў будынку быў разьмешчаны Дом культуры будаўнікоў, і помнікам архітэктуры ён стаў лічыцца толькі нядаўна, дзякуючы намаганьням канфедэратаў з суполкі "Повязь", якія актыўна пратэставалі супраць меркаванае рэканструкцыі былога касьцёла ў "палац са шкла і бетону". Менская камісія падтрымала патрабаваньні "Повязі", былі прынятыя неадкладныя меры, і будаўнікі пакінулі касьцёл. Але пакуль аршанскія ўстановы высьвятлялі, хто ж зь іх цяпер гаспадар будынк , у ім пасяліліся аматары моцных напояў і "цяжкія" падлеткі, якія хутка

пачалі зьмяняць інтэр'ер адпаведна свайму густу. Балазе, дзьверы праз увесь час былі гасьцінна расчыненыя...

Справа вырашылася на дзіва лёгка. Дастаткова было зьявіцца аб'явам, якія заклікалі жыхароў горада на сустрэчу з дэлегатамі Устаноўчага зьезду БНФ у... той самы будынак. У выніку аператыўнасьці гарадскіх уладаў гаворка мусіла адбыцца ў парку перад касьцёлам, бо ўсе ўваходы былі дыхтоўна закалочаныя. Людзі цікавіліся Праграмай "Адраджэньня", падзеямі ў Літве, задавалі пытаньні пра беларускія нацыянальныя сімвалы. Раз-пораз гутарка пераходзіла на мясцовыя праблемы, якіх, на зьдзіўленьне загадчыцы аддзела культуры Аршанскага гарвыканкаму В.Сідняковай, аказалася вельмі шмат. А сьвежа пагабляваныя дошкі на дзьвярах і вокнах помніка архітэктуры сьведчылі пра карыснасьць такіх сходаў, нават недазволеных.

2 жніўня. Гомель. Менавіта гэты дзень (хаця ён і не зьяўляецца афіцыйным сьвятам паветрана-дэсантных войскаў) усе дэсантнікі лічаць сваім. Звычайна праходзіць ён бурна. Гэтак і сёлета ўжо з самай раніцы натоўпы падпітых хлопцаў у зьбітых набакір блакітных барэтках блукалі па Гомелю ў пошуках прыгодаў. Першы канфлікт адбыўся на Калгасным рынку: дэсантнікі запатрабавалі бясплатнага пачастунку кавунамі. Адбылася сварка. Нехта з былых воінаў стукнуў азербайджанца, які стаяў за прылаўкам, той у адказ пырнуў дэсантніка нажом у жывот. Распачалася бойка. Міліцыя ледзь-ледзь здолела яе спыніць. Далей п'яны натоўп рушыў у парк на наладжаную абкамам камсамолу дыскатэку, якая ў хуткім часе была ператвораная ў трэніроўку каратыстаў. А 18.00 мелася адбыцца ўскладаньне кветак да Вечнага агню, але натоўп лаяўся, сьвістаў, улюлюкаў, не зьвяртаючы ўвагі на выступы ветэранаў-франтавікоў. Замест плянаванага вечаровага канцэрту групы былых воінаў накіраваліся ў рэстараны, дзе сьвята і дасягнула свае кульмінацыі. У рэстаране "Заря" дэсантнікі зламалі дзьверы, уварваліся ў залу, пачалі аддаваць загады: "Встать!", "Смирно!", "Сесть!" -- і білі, калі хто не выконваў. Некаторыя наведнікі (пераважна мужчыны) здолелі пакінуць рэстаран праз кухню. Выкліканы аддзел міліцыі дэсантнікі жостка зьбілі адабранымі ў міліцыянтаў жа дубінкамі. Міліцэйскае падмацаваньне з сабакамі сутыкнулася з падмацаваньнем дэсантнікаў -- з парку прыбегла яшчэ каля 60 чалавек. У бойцы, якая завязалася на вул. Савецкай (амаль у цэнтры горада), пацярпела 16 міліцыянтаў, адзін зь іх у цяжкім стане. Зьвестак пра колькасьць пацярпелых дэсантнікаў няма. Затрыманы 41 чалавек, узбуджаныя 2 крымінальныя справы.

Падобныя падзеі адбыліся сёлета ў Гомелі і пад час сьвяткаваньня Масьленіцы: вялізны натоўп -- каля 5 тыс. чалавек -- рухаўся з пл.Леніна па вул.Савецкай у кірунку гатэля "Турыст", зьмятаючы ўсё на сваім шляху, шпуляючы бутэлькамі ў тралейбусы ды аўтобусы. (Паводле Алеся Яўсеенкі).

6 жніўня, Бабруйск. На плошчы Леніна, перад гаркамам і гарвыканкамам, адбыўся несанкцыянаваны мітынг, наладжаны гарадской Радай БНФ. У рашэньні ўладаў матывы забароны былі сфармуляваныя так: "...гр-не Якимова Н.А., Вашкевич В.Д., Вербовский М.П., Юркова Г.К., Иоселев А.Е. (сябры Рады БНФ. -- Рэд.) не являются представителями интересов трудовых коллективов и общественности города, как показал прошедший 2 июля 1989 года митинг; в основе их заявлений лежит стремление скомпрометировать руководящих работников. Скрывая свои

цели за лозунгами перестройки, они пытаются увести трудящихся города от решения неотложных задач". На мітынг сабралася каля 2--3 тыс. чалавек. Асабліва востра абмяркоўваліся пытаньні экалогіі горада, дзяржаўнасьці беларускай мовы, рэспубліканскіх выбараў у Саветы. З прамовамі выступілі Ю.Дракахруст, Г.Сакалоў-Кубай, М.Собаль (сябры Сойму), Т.Белавокая (падкамісія "Дзеці Чарнобыля"), Фёдараў (Магілёўская Рада) і інш. Была прынятая рэзалюцыя, у якой, у прыватнасьці, "за марнаваньне народных грошай, бяздушнае стаўленьне да грамадзянаў і нежаданьне вырашаць надзённыя праблемы горада" выказаны палітычны недавер першаму сакратару гаркама КПБ В.Алімбоікаву і старшыні гарвыканкаму Г.Карпаву. На мітынгу ўздымаліся бел-чырвона-белыя нацыянальныя сьцягі і гербы, шырока распаўсюджваўся "малы друк". У некага міліцыя адабрала фотаапарат, некага завялі ў пастарунак, у некага адабралі абутак (за тое, што распаўсюджваў перыёдыку). На жаль, у сумятні дэталі гэтых інцыдэнтаў не былі высьветленыя.

6 ж н і ў н я, В о р ш а. Менавіта гэты дзень быў абраны ў парку каля дамініканскага касьцёлу для новай сустрэчы з дэлегатамі Устаноўчага зьезду БНФ і сябрамі Сойму. На гэты раз яна адбылася ў гарадскім доме культуры. Цікава заўважыць: абвестка пра сустрэчу была зьмешчаная ў мясцовай газэце "Ленінскі прызыў", што пэўным чынам адлюстроўвае паварот у палітыцы аршанскіх уладаў. Прысутнічала каля 300 чалавек. З прыхільнасьцю быў сустрэты выступ сябра Сойму Міколы Купавы. Многія прамоўцы ўзрушана абвяргалі артыкул М.Дзьмітрыева ("Звязда", 16.7.1989; ці варта, дарэчы, зьвяртаць на падобныя публікацыі такую ўвагу -- Дзьмітрыеў ня першы і не апошні). Гаварылі таксама пра аршанскія Курапаты -- Кабыляцкую гару -- і забастоўку мясцовых чыгуначнікаў, якія наіўна хочуць бачыць у Воршы вырабы тутэйшага мяса-кансэрвавага заводу. На сустрэчы ўздымаліся нацыянальныя сьцягі. Былі прынятыя дзьве рэзалюцыі: у падтрымку БНФ і аб узбуджэньні крымінальнай справы па забойствах на Кабыляцкай гары.

9 ж н і ў н я, П о л а ц а к. Навапалацкія групы падтрымкі дапамаглі палачанам правесьці свой першы мітынг... Наогул, тэмпы разьвіцьця руху Народнага Фронту ў Полацку і Навапалацку былі розныя. Яшчэ летась Навапалацак скаланалі магутныя экалагічныя мітынгі (якія, між іншым, часткова дасягнулі мэты). Полацак тым часам ціха марнеў у правінцыйнасьці. Цяпер у Навапалацку сфармаваўся моцны "рабочы" Фронт (большасьць групаў дзейнічае на прадпрыемствах) з выразнай нацыянальнай ідэяй, у Полацку -- рух толькі-толькі пачынае пашырацца. У вялікай ступені -- дзякуючы дзейнасьці аб'яднанай полацка-навапалацкай Рады і асабліва намаганьням яе лідэра, дэпутата гарсавета Анатоля Куліка. Аўтарытэт "Адраджэньня" моцна ўзьняўся пасьля таго, як Рада наладзіла кантроль гарадскіх крамаў, у чым вельмі дапамаглі дэпутацкія паўнамоцтвы А.Куліка. У выніку пад прылаўкам было выяўлена больш за 15 тыс. бляшанак тушаніны, больш за 12 тыс. бляшанак кавы, іншыя дэфіцыты... Аб'яву пра мітынг зьмясьціла гарадская газэта. На месцы распаўсюджваўся франтаўскі друк, які быў раскладзены на шырокіх сталах. Мітынг вёў рабочы аднаго з полацкіх заводаў Андрэй Ігнатовіч. З прамовамі выступілі сакратары Управы БНФ В.Вячорка і В.Івашкевіч, прадстаўнікі полацкіх і навапалацкіх групаў падтрымкі. Прынятая на мітынгу рэзалюцыя, у прыватнасьці, пат-

рабуе апублікаваць у рэспубліканскім друку альтэрнатыўны законапраект аб выбарах, вярнуць гістарычныя назвы вуліцам Полацка, перадаць Полацкаму запаведніку гістарычныя будынкі былога езуіцкага калегіюма, якія займае цяпер вайсковае ведамства, а таксама выявіць сьляды тых 88 гатункаў кілбасы, што выраблялецца на мясцовым мясакамбінаце. (Паводле С.Сокалава-Воюша).

14 жніўня. Берасьце. У канферэнц-зале абкама камсамолу па ініцыятыве рэгіянальнай Рады адбылася сустрэча жыхароў горада з дэлегатамі Устаноўчага зьезду БНФ. Пра мэты і задачы "Адраджэньня" распавёў прысутным старшыня Рады Рыгор Бакіевіч. Дэлегаты Зьезду адказалі на шматлікія пытаньні. Удзельнікі сустрэчы (больш за 300 чал.) пераважнай большасьцю галасоў (4 -- супраць, 19 -- устрымаліся) прынялі рэзалюцыю, у якой зьвярнуліся да Прэзідыўма Вярхоўнага Савета БССР з просьбай зарэгістраваць БНФ "Адраджэньне". (Паводле М.Пракаповіча).

15 жніўня. Гародня. У самы разгар "русскоязычных" хваляваньняў у Эстоніі некторыя гарадзенскія прадпрыемствы (ВА "Азот", ВА "Хімвалакно, завод аўтамагнітолаў, прадзільна-ніткачны камбінат і інш.) атрымалі ад забастоўшчыкаў тэлексы з заклікамі аб фінансавай дапамозе. Разьліковыя рахункі "русскоязычных" заводаў падмацоўвала іерархія подпісаў: дырэктар, старшыня прафкама, старшыня СПК, старшыня забастовачнага камітэту; пастскрыптумы рэкамендавалі перадаць тэксты тэлексаў у парткамы і шырока распаўсюдзіць на іншых прадпрыемствах. Справа рабілася з размахам. У гэтых варунках Гарадзенская Рада БНФ падрыхтавала свой зварот да рабочых горада. У дакуменце, у прыватнасьці, гаворыцца, што беларусы -- народ спагадлівы і памятаюць пра рабочую салідарнасьць. Але трэба да рэшты страціць сумленьне, каб на міністэрска-дырэктарскія страйкі "в защиту социализма" адбіраць лішнія рублі ў дзяцей Чарнобыля і ва ўласных дзяцей. Рада заклікала гарадзенцаў устрымацца нават ад маральнай падтрымкі страйкаў, арганізаваных на самой справе супраць эканамічнай самастойнасьці рэспублік, у т.л. і Беларусі. Зварот таксама раіць задумацца над рэальным цэнзам аселасьці: чаму ў Гародні на кватэрную чаргу можна стаць толькі на чацьверты год пражываньня ў горадзе? Кіба права на жытло менш значнае, чым права абіраць і быць абраным?..

С.П.

АПРАЎДАНЬНЕ КРЫВІ

Ці чыталі вы Заяву ЦК КПСС пра становішча ў Прыбалтыцы? Яна гучыць як апраўданьне крыві, якую Масква гатова праліць у Эстоніі, Латвіі і Літве ("Сама их жизнеспособность могла бы оказаться под вопросом") дзеля адзінства СССР і непарушнасьці ідэалаў сацыялізму.

Зрэшты, да сацыялізму гэтыя пагрозы ніякага дачыненьня не маюць. Пад імі мог бы сьмела паставіць свой подпіс любы з расейскіх манархаў і манархістаў. Вось хоць бы і аўтар гэтай брашуры 1908 года выданьня:

"В наше время всякие центробежные тенденции получили вдруг у нас, в России, такое небывалое распространение; все инородческие элементы и сбитые ими с толку русские упорно до-

могаются превратить наше государство, сильное до сих пор своим единством, в союз отдельных государств, с явным преобладанием инородцев, -- чем и объясняется та поддержка, которою пользуются в оппозиционных кругах финляндцы, доведшие свой сепаратизм до абсурда, до признания русских в Финляндии неполноправными, лишенными многих прав гражданами..."

Гісторыя, як бачым, паўтараецца. Толькі сёньня няма ўжо гутаркі пра правы рускіх у Фінляндыі (мусіць, нядрэнна ім там жывецца і мову фінскую вучаць) ды й высновы зьмяніліся. У той брашуры гаварылася так: "царская власть есть единственная, возвышающаяся над всеми властями и над всем временным..." Ну ды, зрэшты, калі ў Расеі сабраліся ліць кроў, дык заўсёды шукаюць таму "ідэйныя" апраўданьні. Ніколі ня скажуць, што танкі у Талін ці Вільню трэба ўвесьці "у імя" большае колькасьці кілбасы кватэр і эстонскай культуры, дзеля падвышэньня ўзроўню жыцьця народа. Бо кілбасу, кватэры і культуру танкамі не вырабіш, не збудуеш, не разаўеш. Тут, бадай, розум патрэбны!

І яшчэ. Ці ведаеце, дзе была надрукаваная тая антыфінская манархісцкая брашурка? Адгадалі. У Віцебскай губернскай друкарні, на Беларусі. Так што гэта, аказваецца даўняя традыцыя, і сёньня наша Вандэя панікуе і разьдзімае антыпрыбалтыйскую істэрыю ня проста так. Пазіцыя простая як паравозны сьвісток: распаліць у нашых душах нянавісьць да братоў эстонцаў, латышоў і літоўцаў, да малдаванаў... абы мы ня думалі пра пустыя прылаўкі, пра талоны, пра злачыннасць і дэмаралізацыю ў сябе дома -- на Беларусі. Абы толькі самі ня лезьлі ў палітыку.

**Міхась Собаль**

## РГС -- МУНІЦЫПАЛЬНАЯ УЛАДА

Хутка выбары. Гэтым разам партакраты на Беларусі трэба будзе абраць у рэспубліканскі і мясцовыя саветы такую колькасьць бюракратаў, што аднымі вайсковымі дывізіямі ды партактывам пры галасаваньні не абыйдзешся. У далёкія сельскія раёны не схаваешся, ды і выгаднае для апарату перадвыбарчае сіта -- акруговыя сходы са "сваіх людзей", -- па ўсім відаць, давядзецца адмяніць. Словам, Вандэя рызыкуе цалкам страціць пазіцыі ды адыйсьці ў нябыт сьледам за сваёй французкай папярэдніцай.

Вось чаму ідэалагічны аддзел Менскага гаркаму вымушаны быў узяцца за стварэньне радаў грамадзкага самакіраваньня (РГС) у мікрараёнах. Праект "Прыкладнага палажэньня" пра РГС зьявіўся ў "Вячэрнім Мінску" 22 ліпеня. Дзеля чаго апарату спатрэбіліся нізавыя органы муніцыпальнае ўлады?

Па-першае, дзеля адэкватнае замены акруговых сходаў. Абіраць РГС будуць прадстаўнікі "насельніцтва і працоўных", якіх дэлегуюць на сход жыхары мікрараёну, грамадзкія арганізацыі, саветы працоўных калектываў і прафкамы прадпрыемстваў. Пры гэтым нормы (ад каго колькі прадстаўнікоў) вызначае райсавет. Падрыхтоўка і правядзеньне сходу па выбарах РГС даручаецца аргкамітэту, які стварае тэрытарыяльная група дэпутатаў, гэта значыць тыя, каго мы сёньня маем у якасьці савецкае ўлады. Пасьля выбраньня РГС зацьвярджаецца прэзідыюмам райсавета, які, дарэчы, можа і распусьціць раду, калі палічыць яе дзейнасьць супрацьзаконнай.

Па-другое, гэта ўсё ж вельмі дэмакратычна гучыць -- рада грамадзкага самакіраваньня, нізавая муніцыпальная ўлада. Паво-




дле "палажэньня" РГС надзяляецца самымі шырокімі правамі. Яна -- поўная гаспадыня ў мікраараёне: кіруе ўсімі зьвёнамі самакіраваньня, каардынуе працу грамадзкіх арганізацый, праводзіць сходы жыхароў і прадстаўнікоў, актыўна ўдзельнічае ў выбарах. Яе пастановы абавязковыя для жыхароў і прадпрыемстваў мікрараёна.

Вось дзе парадокс! Самая дэмакратычная грамадзкая структтура ствараецца дзеля далейшага ўціску дэмакратыі. Як гэта зразумець?

А проста. Не ад лёгкага жыцьця і не ад лішняга лібералізму стварае Вандэя РГС. У парадку эксперыменту, дарэчы, гэтая праца вядзецца ў чатырох менскіх раёнах: Першамайскім, Фрунзенскім, Маскоўскім ды Ленінскім. Вандэя рызыкуе. Бо што калі народ на ўзроўні гарадзкіх кварталаў, двароў ды пад'ездаў возьме ды перахопіць ініцыятыву? Не паставіш жа ў кожны пад'езд партыйца, здольнага ў сяброўскай гутарцы з людзьмі вярнуць страчаны аўтарытэт КПБ і яе кіраўнікам!.. Сказаўшы народу: кіруй сам! -- пасьля ня надта сунешся са сваім "партыйным кіраўніцтвам". Словам, рызыка вялізная, ініцыятыва па сутнасьці сваёй здаровая, і народу, а найперш Народнаму Фронту, грэх не падтрымаць яе, не ўзяць у стварэньні і выбарах РГС самага актыўнага ўдзелу. Як жа стварыць муніцыпальную раду мікрараёна?

Пэўны досьвед на гэты конт ёсьць у менскай маскоўскай Радзе БНФ, групы падтрымкі якой працуюць у мікрараёне Паўднёвы Захад.

Явачным парадкам група падтрымкі, разьбіўшыся па 2 чалавекі абыходзіць дамы. У кожным пад'езьдзе тут 36 кватэр, а ўвесь мікраараён -- 300 пад'ездаў. На кожнай лесьвічнай пляцоўцы яны звоняць адразу ў 4 кватэры ды прапануюць людзям спусьціцца ўніз дзеля сходу. Унізе жыхары пад'езда абіраюць старшыню сходу і сакратара. Пасьля абіраюць свайго прадстаўніка на ўстаноўчы сход РГС. Другі пункт парадку дня -- абмеркаваньне новых праетаў законаў БССР аб выбарах. Пра сход складаецца пратакол у двух асобніках з подпісамі старшыні і сакратара. Адзін асобнік застаецца ў Радзе, другі накіроўваеца ў райсавет. Аднаўасова праводзіцца збор подпісаў пад патрабаваньнем зарэгістраваць БНФ, робіцца падпіска на выданьні Фронту.

Муніцыпальная рада, дарэчы, можа быць створаная і ў вёсцы.

А.С.

## ТРАГІЧНАЕ УЗЬЯДНАНЬНЕ

Другі семінар Сойму БНФ, які прайшоў 17 жніўня, быў прысьвечаны узьядннаньню (злучэньню?) Заходняй і Усходняй Беларусі. З рэфератам на гэтую тэму выступіў Генадзь Сакалоў-Кубай. Трэба прызнаць, што рэферат атрымаўся рыхлы і быў выслуханы без асаблівае ўвагі. Нашмат большую цікаўнасьць выклікаў выступ доктара гістарычных навук Міхася Ткачова, які распавёў пра лёкайскую ролю тагачаснай навукі і нагадаў выпадак з этнографам Майсеем Грынблатам, які па загадзе тагачаснага першага сакратара ЦК КП(б)Б Панцеляймона Панамарэнкі ў 1939 мусіў за ноч даводзіць прыналежнасьць Беласточчыны да Беларусі, а потым, у 1944 -- гэтаксама за ноч, пасьля словаў Сталіна: "Пантэлеймон, уступы," -- адвечную польскасьць гэтага краю. Вінцук Вячорка спыніўся на злавеснай ролі Івана Клімава (узначальваў Віленскае часовае ўпраўленьне 1939) у вынішчэньні заходнебеларускай інтэлігенцыі. Юры Хадыка ўзьняў тэрміналагічнае пытаньне (узьяднаньне або злучэньне?) і зьвязаў зьмены межаў БССР у 20 ст. з падзеламі Рэчы Паспалітай ў 18 ст. Успамінамі дзяцінства пра кніжныя вогнішчы каля заходнебеларускіх школаў, каланіяльнае зьнішчэньне лясоў і рабункавую калектывізацыю падзяліўся Міхась Дубянецкі. З паведамленьнямі выступілі таксама Валеры Буйвал, Алег Трусаў, Віталь Скалабан і інш.

...Відаць, у хуткім часе пакт Молатава--Рыбентропа будзе прызнаны як "юрыдычна беспадстаўны і неправамоцны з моманту падпісаньня". Гэта, вядома, ня значыць, што ўсё вернецца да рэаліяў 1939 году: палова Беларусі адыйдзе да Польшчы, Малдавія да Румыніі, а Літва, Латвія, Эстонія зноў здабудуць поўную свабоду. Безумоўныя зьмены адбудуцца ў маральных ацэнках тых даўніх падзеяў. Трагічнае ўзьяднаньне -- вось што можна сказаць сёньня пра 17 верасьня 1939 году. Але пошук нашага беларускага погляду гэтым толькі пачынаецца. Мы яшчэ шмат чаго ня ведаем: ані праўдзівых абставінаў Народнага сходу ў Гародні, ані таго, як паставіўся да ўзьяднаньня эміграцыйны Урад БНР (а ён на той час быў адзіным зусім незалежным прадстаўніцтвам беларусаў). Урэшце, мы ня ведаем усёй таемнай і яўнай палітычнай гульні па лініях Масква--Менск, Менск--Вільня, Менск--Варшава... Мы толькі выходзім на падставовы прынцып беларускай гісторыі і палітыкі, а менавіта: пачынаем глядзець на Беларусь як на суб'ект гісторыі і палітыкі.

"Дарагія сябры! Піша Вам афіцэр СА лейтэнант Алесь Пабягайла. Служба закінула мяне далёка ад роднай Беларусі. Але як магу, стараюся сачыць за падзеямі на Бацькаўшчыне. Усёй душою падтрымліваю палітыку БНФ "Адраджэньне". Таму й вісіць на дзьвярах майго дому бел-чырвона-белы сьцяг. З-за гэтага і пачаліся ўсе непрыемнасьці. Сьцяг не дае спакою камандзіру ды зампаліту, якія пачалі сапраўднае цкаваньне. Камандзір лічыць мяне "антисоветчиком". Пагражае нейкімі "мерами", партсходам. Газэту "Ніва" і часопіс "Крыніца" называе "сомнительной литературой". Імкнучыся настроіць супраць астатніх афіцэраў, адхіліў мяне ад дзяжурства, і зараз частку маёй працы (але не з маёй віны) даводзіцца рабіць іншым. Як сябе паводзіць у гэтых варунках? Вельмі прашу, не пакіньце мой ліст без адказу". Краснаярскі край.

"Вось асобныя думкі, што ўзьнікаюць пры чытаньні праекту Праграмы БНФ. Многія ідэі закладзеныя верна, але, на мой погляд, зусім сырыя, бачна, што праект рыхтаваўся ў сьпешцы і да канца не прадуманы. Задачы, якія стаяць перад шырокім народным рухам, крыху змазаныя, не заўсёды ясныя. Відаць, сказаўся націск розных групаў, што ўваходзяць у БНФ, і няпэўнасьць іхніх поглядаў.

А наогул я падтрымліваю ідэю Народнага Фронту Беларусі. Дасылаю вам свой верш. Вядома, ён дылетанцкі й сыры, але затое шчыры:

Грамада, гуртуйся ў войска!
Гэй, да дзедаўскіх сьцягоў!
Гэта кліча Каліноўскі,
Гэта кліча продкаў кроў.
Плечы ў плечы і ў калоны --
За свабоду і правы:
Хутка зьнікне лад прыгонны,
Сёньня мы ўжо не рабы.
Абяцае нам улада
Пернік, пугу, вадамёт.
Зрушым сталінскі парадак,
Што нас гне каторы год.
Плечы ў плечы, крок адзіны!
Хто сумленны -- той да нас:
Распраміць павінны сьпіны
Сёньня людзі ў першы раз.
Хай чарнеюць небасхілы,
Крые нас дзяржаўны гонт.
Зараз мы адчулі сілу:
Зараз мы -- Народны Фронт!
Плечы ў плечы, крок яднайце!
Мы адное маці кроў!
Беларусь -- яна ж нам маці --
Супраць крыўды кліча зноў."

Леанід Муштэнка,
Гомель.

"Прапаную пры вылучэньні народных дэпутатаў у Вярхоўны Савет БССР выключыць са складу выбаршчыкаў вайскоўцаў тэрміновае службы, бо яны ў Рэспубліцы знаходзяцца часова і ня ведаюць праблемаў, якія хвалююць нас". А.Кўрачка, Гародня.

Л.Бяляўскі, які адбывае кару ў Томску за рабаўніцтва, "хаця сваю віну не прызнаў і ніколі не прызнае", піша, што перасылае ў фонд БНФ 200 руб. "Я мяркую, -- заўважае ён, -- што прэстыж Фронту ўпадзе пасьля Зьезду народных дэпутатаў, на якім дэпутаты ад БНФ толькі галасавалі. Хіба ў народа Беларусі няма праблемаў? Толькі Адамовіч ды яшчэ адзін дэпутат з Казахстану прамовілі слова "Беларусь".

Пра цяжкасьці з ахвяраваньнямі Фронту піша В.Сярогіна зь Менску: "Сябры! Я пасьпяшалася паведаміць Вам, што паслала грошы (10 р.) на імя П.Садоўскага. Праз тыдзень яны вярнуліся да мяне". Што ж рабіць, калі для кіраўніцтва і фінансавай службы Рэспублікі няма важнейшага клопату, чым лёс дзесяці руб. грамадзянкі В.Сярогінай...

М.Маеўскі з мастацкага камбінату "Мастацтва" ў Бера-

сьці паведамляе пра стварэньне суполкі БНФ з 25-ці чалавек.

Шмат якія чытацкія допісы ў "Навіны" -- гэта просьбы дасылаць франтаўскі друк і праграмныя дакументы БНФ. Апошнім часам мы атрымалі й будзем задавальняць такія просьбы ад І.Шапелюка ды М.Тарасюка зь Менску, М.Ганчаровай з Гомеля, Я.Пятрова, Я.Унукава, А.Сьцепановіча, В.Рэчыцкага, што цяпер праходзяць вайсковую службу далёка ад Бацькаўшчыны, у Ленінградзкай вобласьці, В.Перагудава з Ракава, А.Коржыча з Гародні ды П.Балач зь Мёрскага раёну, В. Лычкоўскага з Узды, Я.Лявіцкага з Смургоняў, А.Цадко з Маладэчанскага раёну. "Зьдзіўляе мяне, чаму вашу газэту немагчыма купіць? -- піша майстар 4-га будтрэста БУ-50 І.Шапялюк. -- Я ўпэўнены, што ахвотных купіць "Навіны" назьбіраецца толькі ў Менску больш за 100 тысячаў чалавек". Як бачыце, Ігар Яўгенавіч, дастаткова нежаданьня якіх-небудзь дзесяці функцыянераў, каб сотні тысяч заставаліся ні з чым...

С.Паўлоўскі

"НАВІНКІ" СТАТЫСТЫКІ

Маскоўская "Литературная газета" апублікавала дадзеныя апытаньня сваіх чытачоў: як яны ставяцца да савецкай выбарчай сістэмы? Супраць выбараў ад грамадскіх арганізацыяў выказаліся 85%, супраць акруговых сходаў -- 92%, за прамыя выбары прэзідэнта Саюза, рэспублікі, старшыняў краявых, абласных, гарадскіх і раённых Саветаў -- 94%. Падвядзем рахунак: насельніцтва СССР дэмакратычнае на 91%. Але...

У той самы час менскія партыйныя газеты друкуюць праекты рэспубліканскіх выбарчых законаў. Застаецца і передвыбарчае акруговае сіта, і выбары ад грамадскіх арганізацыяў, і гарантыі выбараў новых прэзідэнтаў, як дзьве кроплі вады падобных да папярэднікаў.

Падлічым: кіраўніцтва ў БССР дэмакратычнае роўна на 9%, гэта значыць, прадстаўляе інтарэсы 9% народу. Як, скажам, кіраўніцтва таварystваў сабакаводаў або кактусаводаў-аматараў. Ні больш, ні менш.

ЗА МЕЖАМІ

В і л ь н я. Упершыню зь віленскай газэты "Кам'яўніма цеса" даведваемся пра Беларускую дэмакратычную партыю, прадстаўнік якой вітаў 29--30 ліпеня ў Віленскім палацы будаўнікоў Устаноўчы зьезд Літоўскай дэмакратычнай партыі. Пра мэты ды задачы БДП застаецца пакуль здагадвацца ці меркаваць паводле праграмнае заявы ЛДП: "Сваёй асноўнай мэтай ЛДП абвяшчае адраджэньне вольнае, незалежнае і дэмакратычнае (праўнае), сацыяльна-справядлівае Літоўскае дзяржавы, дзе суверэнная дзяржаўная ўлада належыць нацыі й ажыцьцяўляецца Саветамі, абранымі дэмакратычным шляхам".

Р ы г а. Тутэйшая газэта "Лаўку авізэ" 21 ліпеня надрукавала, а газэта "Советская молодежь" перадрукавала наступнае паведамленьне кандыдата эканамічных навук А.Іларыёнава:

Узроўні эканамічнага разьвіцьця рэспублік СССР істотна адрозьніваюцца. Дастаткова параўнаць долі нацыянальнага даходу

на аднаго жыхара ў 1986 годзе па рэспубліках (у працэнтах да сярэдняга ўзроўню Саюза):

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Эстонія | 139 | Украіна | 100 | Азербайджан | 66 |
| Латвія | 139 | Малдавія | 99 | Кіргізія | 62 |
| Літва | 128 | Казахстан | 85 | Туркменія | 61 |
| Беларусь | 122 | Грузія | 80 | Узбекістан | 54 |
| РСФСР | 111 | Арменія | 77 | Таджыкістан | 47 |

Розьніца ва ўзроўнях спажываньня тавараў і паслугаў даволі вялікая (у працэнтах да сярэдняга ўзроўню ў Саюзе):

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Эстонія | 133 | Беларусь | 105 | Кіргізія | 78 |
| Латвія | 129 | Малдавія | 99 | Туркменія | 70 |
| Літва | 115 | Грузія | 92 | Азербайджан | 67 |
| Украіна | 106 | Казахстан | 91 | Узбекістан | 65 |
| РСФСР | 105 | Арменія | 85 | Таджыкістан | 59 |

Вучоны заўважае: адносная розьніца ва ўзроўнях нацыянальнага даходу паміж найвышэйшым і найніжэйшым паказчыкамі (3 : 1) усё ж меншая, чым ва ўзроўнях спажываньня (2,2 : 1).

Л о н д а н. Газэта "Гардыян" 3 ліпеня 1989 зьмясьціла артыкул "Стракатая коўдра плюралізму" пра палітычную сітуацыю на Беларусі і, у прыватнасьці, пра Устаноўчы зьезд БНФ. "Безумоўна, Устаноўчы зьезд Фронту павінен быў праходзіць у самой Беларусі, -- лічыць карэспандэнт "Гардыян". -- А тут ён быў у часовай эміграцыі з прычыны кансэрватызму рэспубліканскіх уладаў, якія адмовіліся даць дазвол. "Гэта -- палітычная Вандэя", -- так назваў адзін з выдатных пісьменьнікаў рэспублікі Алесь Адамовіч свой родны край колькі месяцаў таму. Напярэдадні 200-годзьдзя Француская рэвалюцыі ягоная мэтафара была ўзятая ад апошняй раялісцкай правінцыі, якая супраціўлялася руху пераменаў. Адамовіч прамаўляў з хваляваньнем пасьля таго, як паліцыя ў Менску ўжыла вадзяныя гарматы (так у тэксьце. -- Рэд.) і дубінкі, каб разагнаць тысячы людзей, якія патрабавалі стварыць мемарыял ахвярам сталінізму. Хоць ніхто ня быў забіты, брутальны інцыдэнт узьняў нацыянальнае пачуцьцё.

На Беларусі гільятыны пачалі працаваць у канцы сакавіка. Часткай у выніку першых дзеяньняў Народнага Фронту, які арганізаваў эфектыўную кампанію пратэсту, а таксама ў выніку агульнага грамадзкага раздражненьня мясцовым партыйным кіраўніцтвам. На сакавіцкіх выбарах пакаціліся некаторыя важныя галовы. Не прайшоў партыйны сакратар сталіцы Менску, як і сакратары Гомеля ды Магілёва.

Выбарчыя паразы, здаецца, толькі ўзмацнілі супраціўленьне партыі. Партыя адмовілася дазволіць зьезд Народнага Фронту і ўжыла свой кантроль над мясцовымі сродкамі інфармацыі, каб ганьбаваць фронтаўцаў як экстрэмістаў і правакатараў, хоць цэлы шэраг дэлегатаў новага Зьезду народных дэпутатаў падтрымліваюць БНФ".

Далей карэспандэнт "Гардыян" прыводзіць сваю гутарку на Зьезьдзе БНФ з народным дэпутатам СССР, прафэсарам ядзернай фізікі ў дзяржуніверсітэце, экспэртам па чарнобыльскай праблеме Станіславам Шушкевічам: "Яго хвалюе, што так многа беларусаў асіміляваліся, абруселі. "Да нядаўна, -- кажа ён, горка жартуючы, -- адзіныя, хто гаварыў па-беларуску, былі сяляне ды

сябры Саюзу пісьменьнікаў. А зараз значна больш..."

"Некаторыя з прыхільнікаў БНФ, -- піша "Гардыян", -- лічаць палітычны правал галоўнай прычынай кансэрватызму парткіраўніцтва ў Менску. Кіраўніцтва адказнае за тое, што не папярэдзіла людзей заставацца у дамах у час Чарнобыльскай катастрофы. Яно мае сваіх сяброў-аднадумцаў у Маскве. Напрыклад, былога сакратара партыі Беларусі Мікалая Сьлюнькова. "Калі кіраўніцтва ў Менску зьменіцца, тады ўсе гэтыя людзі будуць прыцягнутыя да адказнасьці", -- сказаў адзін з дэлегатаў Зьезду Народнага Фронту.

Палітычныя лідэры ў Менску не заўсёды былі непапулярныя. Больш за 10 гадоў Рэспублікай кіраваў Пётр Машэраў, да гібелі ў аўтамабільнай катастрофе ў 1980. Многія беларусы параўноўваюць яго сьмерць са сьмерцю Джона Кенэдзі. Яны лічаць, што існавала змова людзей, якія баяліся папулярнасьці Машэрава. Пра Машэрава расказваюць, што ён імкнуўся ўзмацніць сувязь паміж партапартам і індустрыйнымі мэнэджарамі, якія пярэчылі патрабаваньням Масквы больш вывозіць зь Беларусі ды імкнуліся трымаць высокі жыцьцёвы ўзровень у Рэспубліцы. Паводле стандартаў СССР Беларусь і зараз перадавая... Што ж тычыцца адносінаў да інтэлігенцыі і палітычных актывістаў, дык слова "дыялог", здаецца, невядомае сёньняшняму кіраўніцтву", -- сьцьвярджае карэспандэнт ангельскай "Гардыян".

Т а л і н. У чэрвені 1989 "Вестник НФЭ" зьмясьціў на сваіх старонках зварот БНФ "Адраджэньне" да ўсіх жыхароў Эстоніі з просьбай прыняць і разьмясьціць на тэрыторыі Эстоніі тэрмінам на адзін месяц дзяцей дашкольнага ўзросту з бацькамі з тых раёнаў Беларусі, дзе радыяцыя перавышае дапушчальныя нормы. "Група дапамогі", створаная пры беларускім таварыстве "Грунвальд" у Эстоніі, рэдакцыя "Вестника НФЭ" і газета "Нарвский рабочий" (у ёй таксама быў зьмешчаны зварот БНФ) атрымалі мноства лістоў. Вось вытрымкі толькі зь некаторых:

"Магу прыняць у любы час трох чалавек. Пра прыезд прашу абавязкова папарэдне паведаміць. Карнэлія Ват".

"Прапануем два варыянты: першы -- лецішча ў 6 км ад Нарвы, побач рэчка, умовы добрыя, печка, вадаправод, пакой 16 м кв, -- для сям'і з трох чалавек зь дзіцём; другі -- двухпакаёвая кватэра ў горадзе, пакоі сумежныя, жыве адна гаспадыня -- для двух чалавек. Лідзія Гулюшкіна, Валянціна Фукс".

"Можам прапанаваць адной сям'і зь Беларусі летняе жытло ў нас на хутары (недалёка ад г.Цэсіс, Латвія). Наш горад мае штодзённую чыгуначную сувязь зь Менскам (цягнік Менск--Талін, станцыя Цэсіс). Будзем радыя дапамагчы людзям, якія патрапілі ў бяду. Чакаем сям'ю настаўнікаў. Вільяр Тоом".

"Магу прыняць сям'ю (пажадана з трох чалавек). Маю трохпакаёвую кватэру палепшанай планіроўкі. Мая сям'я -- жонка, дачка і сын. Аляксандр Насенка".

"Калі Вас задавальняе, магу прапанаваць аднапакаёвую кватэру. Н.Шылкава".

"Піша Вам маладая сям'я. Мы з мужам параіліся і вырашылі ўзяць на лета адну сям'ю зь Беларусі. У нас добраўпарадкаваная чатырохпакаёвая кватэра. І.Пятраўскас".

"Калі Вы лічыце Нарву экалагічна чыстай зонай, мы гатовыя прыняць гасьцей. Можам прапанаваць адзін або два пакоі ў чатырохпакаёвай кватэры. Несьцярэнкі".

"У нас ёсьць прыватны дом, праўда, зь пячным ацяпленьнем.

Калі ёсьць ахвотныя, гасьцінна запрашаем і чакаем да нас. І.Праўе, Яфімава".

Падкамісія "Дзеці Чарнобыля" пры Сойме БНФ і "Група дапамогі" шчыра ўдзячныя ўсім, хто адгукнуўся на наш зварот.

Напэўна, мы ня здолеем выкарыстаць усе прапановы, бо лета фактычна прамінула. Жыхарам забруджаных тэрыторыяў, хто зьбіраецца браць адпачынак увосень і хацеў бы скарыстацца запрашэньнямі з Эстоніі, неабходна зьвярнуцца да сяброў падкамісіі праз Управу БНФ (часовы адрас): Менск, вул. Фрунзе, 5, Дом літаратара. Алесь Емяльянаў, Мікола Міхноўскі. Тэл. 36-99-72.

Л а т в і я. У пачатку жніўня па Латыскім тэлебаньні быў паказаны фільм "Чорная быль Беларусі". Паводле апублікаваных зьвестак, колькасьць радыяактыўных рэчываў, выкінутых у паветра з 26 красавіка да 5 траўня 1986 роўная 90 Хірасімам. 90 атамных бомбаў, толькі без ударнай хвалі, абрынулі на беларускія, украінскія і рускія хаты. А людзі, якім нават не палічылі патрэбным сказаць пра гэта, працавалі на палях, сеялі, купаліся, дэманстравалі першамайскую еднасьць партыі і народу, пілі ваду з калодзежаў, куды сыпаўся зь неба "мірны атам". Многія і дагэтуль не ўсьвядомілі, якая вялізная бяда напаткала нас. Ці не таму, што сапраўдныя факты катастрофы ўпарта хаваюцца ў БССР па-ранейшаму? Зусім невыпадкова, што фільм, зьняты рэжысёрам Беларускага тэлебачаньня Паўлам Шаўчуком, упершыню ўбачылі менавіта латыскія, а ня нашыя тэлегледачы.

С я м і п а л а ц і н с к. Група сяброў БНФ узяла удзел у антыядзерных акцыях, наладжаных 4--7 жніўня грамадскім рухам Нявада--Сяміпалацінск. Ініцыятыва Алжаса Суляйменава ўдала супадае з новай палітыкай Масквы. У гэтым адначасна і сіла, і слабасьць казахскага экалагічнага антыядзернага руху. З аднаго боку -- фінасавая і арганізацыйная падтрымка, сусьветны розгалас. З другога... На мітынгу, які адбыўся недалёка ад Сяміпалацінскага палігону ў вёсцы Каравул, беларусы прапанавалі ўключыць ў рэзалюцыю шэраг канкрэтных пунктаў: скласьці і апублікаваць карты радыяцыйнай заражанасьці прылеглых да палігона тэрыторыяў; увесьці для іх насельніцтва кампенсацыйныя даплаты ды ільготы; выявіць службовых асобаў, адказных за ўтойваньне радыяцыйных зьвестак, не затрымліваць пад прымусам тых, хто хоча пакінуць заражаныя радыяцыяй зоны. Выступ сябра Сойму БНФ Алеся Емяльянава быў горача падтрыманы ўдзельнікамі мітынгу, асабліва жыхарамі самога Каравула. Але ў рэзалюцыю гэтыя прапановы так і ня трапілі: у першую чаргу яе паэтычны пафас прысьвячаўся карысьці ад двухбаковага мараторыю. Замежныя карэспандэнты, акрэдытаваныя на час акцыяў у Сяміпалацінску, выявілі вялікую цікавасьць да беларускай дэлегацыі.

М а с к в а. Зь беларускіх народных дэпутатаў СССР у міжрэгіянальную групу ўвайшлі: Ул.Бальбасаў, В.Быкаў, Ю.Варонежцаў, С.Габрусеў, А.Дабравольскі, А.Жураўлёў, В.Карніенка, А.Сьцепаненка, Ул.Фаменка і С.Шушкевіч.

"ПОМЕСЬ НЕГРА С МОТОЦИКЛОМ"

Што адбываецца ў ЦК КПБ? Што за людзі там працуюць? Які іхні культурны ўзровень ды інтэлектуальны патэнцыял? А галоўнае -- якія ў іх пляны адносна нас, нашай зямлі і нашае буду-

чыні? Усё гэта -- вялікая партыйная таямніца, схаваная ад народа як партыйнага, так і беспартыйнага. Адзінае, што застаецца народу -- назіраць, як растуць і пашыраюцца цэкоўскія апартаменты, цешыцца з гэтай нагоды і слухаць, што "людзі кажуць".

А кажуць яны, між іншым, што неўзабаве на пасадзе першага сакратара ЦК КПБ боскаю воляй адбудуцца пэўныя зьмены. Кажуць, што Яфрэма Сакалова, зь якім мы так і не пасьпелі па-людзку пазнаёміцца, заменіць першы сакратар Вітэбскага абкаму КПБ Уладзімер Грыгор'еў. Паколькі менскі партыйны лідар -- гэта маскоўская наменклатура, і прызначаецца ён не для нас з вамі, а для справаздачаў у цэнтры, думка беларускага народу ў гэтых зьменах -- справа дзесятая. Нас, як гэта заўсёды і было, не павінна абыходзіць, хто будзе намі кіраваць, вяршыць нашыя лёсы. Бо то людзі, а мы з вамі -- чалавечы матар'ял для наменклатурных гульняў. Урэшце рэшт, мы можам задаволіцца тым, што ад замены кіраўніцтва, палітыка на Беларусі аніяк не зьмяняецца. У гэтым сэнсе Сакалоў нічым не адрозьніваецца ад Сьлюнькова, а Грыгор'еў -- ад Сакалова. Мяркуйце самі.

Грамадзкае рэнамэ "прагрэсіста", створанае Грыгор'еву маскоўскай прэсай, у сапраўднасьці заснаванае на паказушных акцыях, арганізаваных да таго ж самім Грыгор'евым. Вось некаторыя факты, што характарызуюць аблічча гэтага кіраўніка:

-- Паводле заключэньня эколагаў, будаўніцтва ў эўрапэйскай зоне СССР буйных сьвінагадоўчых комплексаў звыш 10 тысяч галоў прызнана немэтазгодным, бо дагэтуль нідзе ў сьвеце ня вырашаная праблема ўтылізацыі навозных сьцёкаў. Грыгор'еў жа валявым рашэньнем пачаў будаўніцтва 28 (дваццаці васьмі!) такіх сьвінакомплексаў магутнасьцю 54 і 108 тысяч галоў. Вынік -- атручаныя рэкі і глеба, высяленьне і без таго абязьлюдзелых вёсак, пярэдадзень экалагічнае катастрофы. (У дужках заўважым, што зусім не апошнюю ролю адыгралі сьвінскія комплексы і ў палітычнай кар'еры г.пярэдняга лідара -- Яфрэма Сакалова);

-- Увосені 1988 года Грыгор'еў зрабіў усё, каб утаіць ад насельніцтва факт правядзеньня пошукавае працы пад катлаван запланаванае Беларускай АЭС. Ініцыятары "зялёнага" руху вобласьці былі зганьбаваныя праз абласную газэту, па асабістым загадзе Грыгор'ева з ужо падрыхтаванае газэтнае паласы быў зьняты артыкул пра АЭС;

-- Улетку 1987 года Грыгор'еў задумаў прыцягнуць увагу маскоўскае прэсы сучаснымі пунктамі грамадзкага харчаваньня. У Вітэбску праектаваліся 15 нацыянальных кавярняў. Пад мармур і дуб абліцоўваліся крамы на цэнтральных вуліцах абласнога цэнтра... Рыхтаваўся сьпецыяльны пленум абкаму партыі, куды запрасілі адказных функцыянераў з ЦК КПСС і Саўміну. Прадэманстравалі ім росквіт і сыць, а ўжо праз некалькі дзён прылаўкі вітэбскіх крамаў сталі зноў па-звыкламу пуставатыя;

-- Гэтак сама паказушна быў праведзены і пленум абкаму па пытаньнях аховы здароўя. У адной з бальніц, куды чакаўся візіт міністра Чазава, устанавілі дарагі вітраж. І гэта пры жабрацтве нашых установаў аховы здароўя!

Дарэчы, на гэтым самым пленуме Грыгор'еў публічна (абласное радыё вяло прамую трансляцыю) прадэманстраваў узровень сваёй выхаванасьці, ужыўшы выраз "помесь негра с мотоциклом". Замежныя студэнты вітэбскіх ВНУ абураліся, народ -- сьмяяўся. Не з неграў, вядома;

-- На выбарах Грыгор'еў балатаваўся ў народныя дэпутаты СССР без альтэрнатыўнае кандыдатуры, у сельскіх раёнах вобласьці.

Нарэшце, паслухаем самога Грыгор'ева, каб зрабіць канчатковыя высновы пра ягоны ўнутраны кодэкс розуму, гонару, самастойнасьці і адказнасьці. Цытаты, якія больш нагадваюць афарызмы, узятыя намі з фанаграмы мітынгу БНФ у Наваполацку 5 ліпеня гэтага году, дзе Грыгор'еў выступіў з наступнымі заявамі:

-- Прежде, чем поднимать шум, нам надо подумать: а не повторим ли мы Фергану, не повторим ли мы межнациональные отношения?

-- Мы сегодня возрождаем национальную культуру. Скажите, кто возражает против белорусского языка? Найдите этого человека!

-- Я хочу сказать: те, кто говорит о том, чтобы изучать белорусский язык, те больше всего не любят культуру. Это фарисейство, и надо признать, что это фарисейство процветает!

-- Если вы это восприняли на себя, то есть это лично к себе отнесли, я приношу извинения.

-- Я хочу, чтобы в нашей республике люди жили в дружбе всех национальностей, не оскорбляя достоинства, не говоря о том, что белорусский язык единственный должен быть государственным. Это очень тонкий вопрос, и если мы неточно к нему подойдем, мы можем провалиться под лед!

-- Я вас всех уважаю. Посмотрите, как я с вами говорю!

-- Зачем же на меня бросать камни глазами? Не думаю, что я этого заслужил, не думаю. Повторяю: не думаю!

-- А что меня обвинили, что я работник аппарата, хочу сказать, что я не работник аппарата, между прочим. Я избирался по-моему, 6 или 7 раз как депутат народный. 200 тысяч человек проголосовали --раз. 108... 110 тысяч коммунистов областной партийной организации... там голосовали 4 раза. Член ЦК КПБ, член ЦК КПСС, ваш первый секретарь обкома партии. Достаточно? Поэтому -- не аппарат.

-- Эта группа справа, если бы она могла оторвать мне голову, так оторвала бы!

-- Власть надо уважать. Если у нас не будет власти, у нас не будет общества!

## КРОНІКА

25 ж н і ў н я, М е н с к. У малой зале Дома палітасьветы адбылася дыскусія, прысьвечаная 200-годзьдзю Дэкларацыі правоў чалавека і грамадзяніна. Гэтае мерапрыемства было арганізаванае праваахоўным Венскім камітэтам БНФ "Адраджэньне". З рэфератамі па заяўленай тэме выступілі прадстаўнікі камітэту С.Бекарэвіч, кандыдат філасофскіх навук А.Кузьняцоў, выкладчык Я.Гайдадылаў. Кароткае паведамленьне зрабіў намесьнік Старшыні Сойму БНФ Ю.Хадыка. У дыскусіі ўзялі ўдзел прадстаўнікі афіцыйнай улады -- міністэрстваў замежных і ўнутраных справаў БССР, а таксама Менскага абкаму КПБ. Былі зачытаныя асноўныя пункты Звароту Венскага камітэту БНФ, у якім, у прыватнасьці, адзначаецца, што мэты новай грамадскай арганізацыі -- абарона правоў чалавека і асноўных свабодаў; пашырэньне інфармацыі пра сістэму міжнародных пагадненьняў па правах чалавека. У Звароце падкрэсьліваецца, што стаўленьне Ураду БССР да абавязкаў, узятых перад міжнароднай супольнасьцю, выклікае трывогу. Венскі камітэт патрабуе апублікаваць Выніковы дакумент Венскай сустрэчы, а таксама рассакрэціць сьпіс асобаў, асуджаных або гвалтоўна зьмешчаных у вар'ятні па арт. 67 (ан-

тысавецкая дзейнасьць) і 186 КК БССР за апошнія 20 гадоў.

Наступная дыскусія, якую мяркуе наладзіць Венскі камітэт, будзе прысьвечана Статуту Вялікага Княства Літоўскага. З сакратаром групы Дыянай Пліскай можна зьвязацца па тэл. 36-91-14.

26 жніўня. Лепель. Тутэйшая газэта "Ленінскі сцяг" паведаміла сваім чытачам: "Так, Чарнобыль -- наша вялікае гора. І віна ведамстваў, чыноўніцтва, вядома, ёсць. Але, абвінавачваючы разам з тым і партыйны апарат, нефармалы зноў жа скаціліся да дэмагогіі. Карыстаючыся іх метадамі, можна смела ў аварыі на атамнай станцыі абвінаваціць... іх саміх. Не "партакраты" ж паспешліва выводзілі рэактар з рабочага рэжыму, а розныя спецыялісты. Магчыма, сярод іх былі людзі з экстрэмісцкімі замашкамі. Вось і вырашылі "ахнуць" па перабудове ядзерным вубухам. Хто адвергне гэтыя домыслы? Тым больш, што падрыўная практыка -- на ўзбраенні экстрэмістаў, нацыяналістаў і розных нефармалаў". (Карніенка М. Мой сказ нефармалам).

31 жніўня, Менск. На чарговым семінары Сойму БФН абмяркоўваўся праект Асноўных палажэньняў "Аб перабудове кіраўніцтва эканомікай і сацыяльнай сьферай Беларускай ССР на прынцыпах самакіраваньня і самафінансаваньня".

З рэфератам па тэме семінару выступіў сябра эканамічнай камісіі БНФ, супрацоўнік Ін-та эканомікі АН БССР Андрэй Саўчанка. Прамоўца назваў Асноўныя палажэньні супярэчлівым і дэкларатыўным дакументам. Логіку Праекту ён параўнаў з логікай хана Залатой Арды, які перадаў частку паўнамоцтваў па зборы даніны свайму васалу Івану Каліце: на месцах лепей ведаюць, як задаволіць патрабаваньні цэнтру. Аналізуючы Праект, А.Саўчанка давёў, што пад самакіраваным рэгіёнам аўтары Асноўных палажэньняў бачаць не Рэспубліку, эканоміка якой функцыянуе на рыначных прынцыпах, а жорсткую іерархіную структуру. Рэалізацыя падобнага самакіраваньня ўмацуе пазіцыі мясцовага апарату сярэдняга і ніжэйшага ўзроўняў, але не забясьпечыць самастойнасьці Беларусі ў адметнай сацыяльнай і эканамічнай палітыцы. Асабліва рэзкая крытыка прагучала ў адрас тых пунктаў Праекту, згодна зь якімі Саветы уключаюцца ў традыцыйную камандавую піраміду: Дзяржплан--міністэрствы--Саветы--прадпрыемствы; па-ранейшаму захоўваецца дырэктыўна-адраснае планаваньне (каму, колькі і чаго выраблядь; каму, колькі і чаго прадаваць); Саветы не атрымліваюць права на самастойную падаткавую палітыку (памеры падатку на саюзныя прадпрыемствы вызначае Масква, а на мясцовыя -- Дзяржплан БССР); застаецца практыка цэнтралізаваных паставак-разьвёрстак ў агульнасаюзны фонд, што падрывае ідэю эквівалентнага тавараабмену паміж Рэспублікай і Саюзам.

На семінары выступіў адзін з аўтараў Праекту -- намесьнік дырэктара Ін-та эканомікі АН БССР Міхаіл Нікіценка. У цэлым ён пагадзіўся з крыткай А.Саўчанкі і распавёў, у прыватнасьці, пра "кухню" падрыхтоўкі Асноўных палажэньняў: аўтарскі праект групы эканамістаў быў да непазнавальнасьці зьменены ў Дзяржплане. У дыскусіі ўзяў удзел доктар эканамічных навук Уладзімер Кулажанка, які, паміж іншым, сказаў, што неабходна больш пільна прыглядацца да досьведу эканамічных рэформаў у Балтыйскіх рэспубліках. Прагучала прапанова аб стварэньні пад эгідай БНФ грамадскага фонду на распрацоўку альтэрнатыўнага праету.

Зянон Пазьняк, які падвёў вынікі работы семінару, канстатаваў, што ня гледзячы на відавочную недасканаласьць Праекту, ён хутчэй за ўсё будзе прыняты, паколькі ў цяперашняй палітыч-

най сітуацыі грамадскасьць Рэспублікі ня мае ніякага механізму ўзьдзеяньня на падобныя дакументы.

2 -- 3 жніўня, Гомель. Два дні працягвалася знаходжаньне ў горадзе высокапастаўленых гасьцей -- Ягора Лігачова і Яфрэма Сакалова. Пад час гэтага візіту нясорамна было прайсьці па гомельскіх вуліцах -- гэтак іх вымылі і вычысьцілі. Людзі з задавальненьнем заходзілі ў крамы: аднекуль зьявіліся і кава, і кілбаса, нават аліўкавы алей з Турцыі, а бананаў -- як бульбы. Але зьехаў маскоўскі госьць, і стаў горад ранейшы. Відаць, нявaрта было гомельскім народным дэпутатам СССР марнаваць час на гаворку са Старшынёй Саўміна СССР М.Рыжковым аб паляпшэньні забесьпячэньня Гомеля ды вобласьці прадуктамі ў сувязі з Чарнобыльскай катастрофай. Праблема вырашаецца значна прасьцей... (Паводле Алеся Яўсеенкі).

10 верасьня, Менск. У Заводскім (каля стадыёна "Трактар"), Ленінскім (каля ўнiверсама "Серабранка") і Маскоўскім (на стадыёне ВА "Прамень") адбыліся мітынгі, арганізаваныя раённымі Радамі БНФ "Адраджэньне". На мітынгах востра крытыкавалася рэакцыйнасьць апублікаваных законапраектаў аб выбарах у рэспубліканскі і мясцовыя Саветы (квоты для грамадскіх арганізацыяў, акруговыя сходы, магчымасьць безальтэрнатыўных выбараў і інш.). На мітынгу ў Маскоўскім раёне выступіў народны дэпутат СССР Станіслаў Шушкевіч. Былі прынятыя рэзалюцыі з патрабаваньнямі зарэгістраваць "Адраджэньне" і апублікаваць ініцыятыўны законапраект БНФ аб выбарах.

АБ'ЯВА

Управа "Адраджэньня" праводзіць інвентарызацыю транспарту, які плануецца выкарыстоўваць у дзейнасьці БНФ. Кіроўцам, якія будуць выконваць разавыя даручэньні, гарантуецца аплата паліва й мінімум камандзіровачных. Сябры групаў падтрымкі могуць зарэгістраваць свае аўтамабілі ў раённых Радах. Пры гэтым неабходна падаць наступныя зьвесткі: 1) прозьвішча і імя гаспадара аўтамабіля; 2) дакладны адрас і тэлефон (той, па якім можна аператыўна зьвязацца); 3) марку машыны. Сябры групаў падтрымкі на вытворчасьці, а таксама прыхільнікі БНФ могуць падаваць зьвесткі сябру Управы Алесю Гуркову: 220100, Менск, вул. Горкага, 143 -- 65. Тэл. 34-42-78 (хатні).

НОВЫ РАХУНАК БНФ "АДРАДЖЭНЬНЕ"

Грашовыя паштовыя пераводы просім накіроўваць на адрас: 232012, Вильнюс, ул. Жирмуну, 106. Сберегательная касса номер 8289/059, код банка 751627, расчетный счет 164505, сберегательная книжка номер 9671, Стеху Валентину Владиславовичу. (Рахунак адкрыты ў Літве, бо там больш надзейна).

---

Нумар падрыхтавалі А.Суша, С.Дубавец, С.Навумчык, П.Жук. Адрас для карэспандэнцыі: 220113, Менск-113, абанементная скрыня 327. Нагадваем, што бяз Вашых ахвяраваньняў выданьне "Навінаў" стане немагчымым. Меркаваньне аўтараў публікаваных матэрыялаў не абавязкова супадае зь меркаваньнем рэдакцыі і кіраўніцтва БНФ.